(Працяг са стар. 1)

# Калі чуеце: БГКТ...

дзейнасць БГКТ атоесамліваюць з дзейнасцю гарадоцкага народнага самадзейнага мастацкага калектыву. Люба Высоцкая — старшыня прафсаюзнай рады прадпрыемства мне сказала:

— Цяпер мы на нашым прадпрыемстве абсталявалі святліцу і хочам у „Каро“ стварыць такі ж мастацкі калектыў. Ёсць у нас жанчыны, якія прыгожа спяваюць беларускія песні.

Юліта Цеханоўская, якая ад 1969 года прымае дзейсны ўдзел у гарадоцкім харавым калектыве, дадала:

— Нядаўна адбыўся ў нас супольны сход гуртка БГКТ і гуртка вясковых гаспадынь. Рашылі мы спалучыць дзейнасць гэтых дзвюх арганізацый і выбралі для іх супольнае праўленне, якое ўзначаліла Тамара Бурачэўская.

Цікавіла мяне яшчэ, як на БГКТ глядзяць людзі „звонку“. Кіраўнік прадукцыі прадпрыемства „Каро“ Марак Кубят у 1971 годзе прыехаў у Гарадок з Лодзі. Вось яго адчуванні:

— Гэта адзіная арганізацыя, якая ў галіне культуры штосьці робіць тут, у Гарадку, бо пра мастацкі гарадоцкі калектыў жыхары Гарадка пастаянна чуюць штосьці новае. Песні ў яго выкананні вельмі мне падабаюцца. Калі Беларускае таварыства патрапіць наладзіць такую дзейнасць і ў другіх мясцовасцях, дзе пражываюць беларусы, дык я ўсё гэта ацэньваю вельмі станоўча.

У Міхалове трапіў я якраз на нараду, у якой удзельнічалі: сакратар гміннага камітэта партыі Станіслаў Гаеўскі,



*Калі гаворым „танец“, думаем — Крупа.*

начальнік гміны Бажэна Крыштофец і дырэктар мясцовай СКР Уладзіслаў Васько. Іх выказванні коратка можна перадаць наступным чынам:

— У Міхалове і ў навакольных вёсках пераважае беларуская нацыянальнасць, а ў сувязі з гэтым вядучае месца займае беларускі фальклор. Дзейнасць БГКТ аставіла тут свой адпячатак. Былі гурткі і мастацкія самадзейныя калектывы. Аднак у апошнія гады ўсё гэта заняпала, бо не хапае добрага арганізатара, а кіраўнікі дома культуры вельмі часта ў нас змяняюцца.

Ёсць патрэба ажывіць усё гэта і нацыянальныя элементы мясцовай культуры неабходна выкарыстоўваць у арганізацыі культурнага жыцця насельніцтва.

Начальнік гміны Б. Крыштофец яшчэ за тое, каб дзейнасць БГКТ цесна спалучаць з дзейнасцю Таварыства польска-савецкай дружбы.

З Міхалова накіраваўся я ў Нараўлая Міруця — гаспадара з вёскі Банку, аднак па дарозе завітаў да Мікадары, які мне сказаў, што ў іх і ў суседніх вёсках дзейнасць БГКТ цэняць вельмі высока.

— Кожны год наладжваем мы фэстыны ў Рыбаках, дзе збіраецца некалькі тысяч беларусаў з усяго наваколля. Першы такі фэстын наладзілі мы яшчэ ў 1959 годзе.

Таварыш Міруць заклікаў затым Галоўнае праўленне БГКТ, каб прыязджалі да іх з савецкімі фільмамі, якія тут карыстаюцца вялікай папулярнасцю, каб таварыства зноў стварыла мастацкі калектыў такога тыпу, якім

У Нараўцы правёў я гутарку са Станіславам Казберуком — інспектарам па справах культуры і асветы і з начальнікам гміны Язэпам Навіцкім.

— У нашым асяроддзі, — сцвердзілі яны, — БГКТ мае даволі багатыя традыцыі. 1 студзеня гэтага года распачаў у нас дзейнасць гмінны цэнтр культуры. У яго працы прадбачваем шырокае выкарыстанне мясцовых этнічных асаблівасцей.

На канец папрасіў я выказацца настаўніка беларускай і рускай моў у Гайнаўскім беларускім ліцэі магістра Васіля Сакоўскага.

— БГКТ? Перш за ўсё гэта наша, беларуская культурна-асветная арганізацыя. Яна вельмі патрэбная. Толькі неабходна, каб Галоўнае праўленне БГКТ пастаралася наладзіць больш цесны і штодзённы кантакт з вёскамі ды з усімі тымі асяроддзямі, дзе жывуць беларусы. Вялікую ролю ў арганізацыі дзейнасці БГКТ могуць адыграць настаўнікі, а перш за ўсё добра падрыхтаваныя настаўнікі беларускай



*„Лявоніха“ пакінула ў памяці людзей трывалы след.*

была „Лявоніха“. Падобныя выказванні чуў я таксама ў школе ў Старым Корніне ад настаўніцы беларускай мовы Олі Сегень і яе мужа Васіля Сегень, які з'яўляецца сакратаром гміннага камітэта партыі ў Дубічах Царкоўных. За аднаўленне „Лявоніхі“ выказваліся многія іншыя мае субяседнікі.

мовы. Толькі трэба іх неяк заахвоціць да гэтай працы. З маіх назіранняў вынікае, што зацікаўленне беларускай культурай у нас даволі вялікае.

У вельмі скарочаным пераказе вось такія больш-менш былі выказванні маіх субяседнікаў. Вывады з іх астаўляю ўжо чытачам.

*Віктар Рудчык*



*У Меляшках слаўныя акцёры.*



*Фэстыны БГКТ перайтварыліся ў сапраўдныя народныя святы.*

# ХРОНІКА

■ Нядаўна ў гуртку БГКТ у Парцаве (гміна Бельск) адбыўся справаздачна-выбарны сход. У склад новага праўлення ўвайшлі: Антаніна Артэмюк — старшыня, Людміла Себясеня — сакратар, Яўгенія Вільчэўская — скарбнік. Дэлегатам на VIII з'езд БГКТ выбрана Яўгенія Вільчэўская.

■ У Міклашах (гміна Орля) удзельнікі справаздачна-выбарнага сходу абмеркавалі працу гуртка і апрацавалі заданні да канца бягучага года; затым правялі выбары. Функцыю старшыні БГКТ-оўцы даверылі Рыгору Рыбачуку, функцыю сакратара — Зоі Кучынскай і функцыю скарбніка — Уладзіміру Жужалю. У склад праўлення выбраны таксама Мікалай Гонта і Аляксандр Орда. Прадстаўляць гурток на VIII з'ездзе БГКТ даверана Мікалаю Гонце.

■ У Катлах, гміна Бельск, новавыбранае праўленне гуртка ўзначаліў Мікалай Сахарчук. Валянцін Вакулеўскі выбраны сакратаром, Таісія Наумчук — скарбнікам, членамі праўлення гуртка — Іван Бабуля і Іван Захарчук.

■ 8 лютага ў вёсцы Вярхлес (гміна Шудзялава) справаздачна-выбарны сход адбыўся з удзелам арганізацыйнага кіраўніка ГП БГКТ Яўгеніі Іванюк. У склад новага праўлення ўвайшлі: Крыстына Кішкель — старшыня гуртка, Ніна Парук — сакратар, Людміла Яцэвіч — скарбнік. Дэлегатам на VIII з'езд БГКТ выбрана Вера Аношка. 4 асобы падпісалі членскія дэкларацыі БГКТ і былі прыняты ўдзельнікамі сходу ў рады нашай арганізацыі.

■ У лютым месяцы ў паасобных аддзелах БГКТ адбываюцца агляды „Беларуская песня-76“. Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку і беластоцкі аддзел супольна арганізавалі агляд у памяшканні ГП. Прыбыло на яго 55 чалавек, у тым ліку 6 салістаў, 5 дуэтаў і 6 вакальных калектываў.

За выкананне фальклорнай песні прызнаны наступныя месцы: Софіі Цацэрка — першае, Марыі Прышчэпка — другое (абедзве яны з вёскі Баброўнікі, што ў Гарадоцкай гміне) і Надзеі Грыцук з Навасёлкаў (гміна Гарадок) — трэцяе. У катэгорыі дуэтаў першае месца заваявалі Надзея Парэмбская і Ніна Мушынская з Гарадка, другое месца не было прызнана, а трэцяе месца занялі Галіна і Вольга Госцік з Міхалова.

У катэгорыі вакальных калектываў журы прызнала: першае месца калектыву з Новай Волі і два другія месцы калектыву з Беластока і групе з Меляшкоў.

У сучаснай песні ў катэгорыі салістаў першае месца заняў Славамір Войтах з Беластока (другое і трэцяе месца не прызнана), у катэгорыі дуэтаў першае месца занялі Галіна Кот і Ірына Паўлючук з Гарадка, другое месца — сёстры Люба Гаўрылюк і Яўгенія Астапчук з Беластока. Сярод вакальных калектываў першае месца прызнана калектыву з Гарадка, другое месца — калектыву з Беластока.

У фінальным аглядзе „Беларускай песні - 76“ з сучаснай песняй возьмуць удзел Славамір Войтах — саліст, дуэты: Кот Галіна і Ірына Паўлючук, а таксама Люба Гаўрылюк і Яўгенія Астапчук. З вакальных калектываў — спевакі з Гарадка і Беластока.

■ 8 лютага бельскі аддзел супольна з мілейчыцкім аддзелам ў беларускім ліцэі арганізавалі агляд „Беларуская песня-76“. Узяло ў ім удзел 40 асоб, у тым ліку 5 салістаў, 3 дуэты і 5 вакальных калектываў. У выкананні сучасных песень першае месца заняў Аляксандр Раманюк з Дубяжына (гміна Бельск), другое — Людміла Грайко з беларускага ліцэя ў Бельску і трэцяе — Мікалай Парфенюк з Нурца.

У катэгорыі дуэтаў у сучаснай песні першае месца прызнана спявачкам з беларускага ліцэя Тамары Ільяшук і Людміле Грайко. Вакальны калектыў з гэтага ліцэя таксама заняў першае месца.

У фальклорнай песні ў катэгорыі салістаў першае месца заваявала Тамара Ільяшук з беларускага ліцэя, а другое месца Вера Валкавыцкая з Орлі. У катэгорыі дуэтаў журы прызнала першае месца сёстрам з Мікуліч — Валянціне і Ніне Вішэнка, другое — Валянціне Себятынскай і Валянціне Бурак з Кошак (гміна Орля). У катэгорыі вакальных калектываў два першыя месцы прызнаны мешанай групе з Дубяжына, жаночай групе з Плёсак, другое месца — жанчынам з Тапчыкал і трэцяе месца — мужчынскай групе з Дубяжына.

На фінальны агляд „Беларускай песні-76“ з сучаснай песняй паедуць салісты Аляксандр Раманюк, Людміла Грайко і Мікалай Парфенюк, дуэт Тамары Ільяшук і Людмілы Грайко, а таксама вакальны калектыў з беларускага ліцэя. З фальклорнай песняй: салістка Тамара Ільяшук, дуэт з Мікуліч, вакальны калектыў з Плёсак і два калектывы з Дубяжына. (мх)

# БЕСПАРАДАК З АГРЭГАТАМ

Два гады таму назад сельгасгурток, што ў вёсцы Агароднікі, гміна Нараў, перадаў свае грошы з фонду разам з машынамі ў карыстанне гуртку ў вёсцы Іванкі. Былыя ўлады Гайнаўскага павету вырашылі ліквідаваць сельгасгурток у вёсцы Іванкі, а ўсе сельскагаспадарчыя машыны перадаць у карыстанне гуртку ў Тыневічах.

Так зрабілі, зацвердзілі, і ўсе машыны перавезлі ў Тыневічы. Праўда, у мінулым годзе гурток з Тыневіч абслугоўваў нядрэнна гаспадароў з навакольных вёсак каля Трасцянкі — ім за гэта належыцца падзяка, але гэтага малавата.

Мне прыйшлося ў студзені г.г. гаварыць з сакратаром партарганізацыі ў Агародніках тав. Паўлам Карповічам і членам партыі тав. Анатолем Андрэюком, якія незадаволены, што вымушаны былі перадаць свае машыны і фонд развіцця сельскагаспадаркі. Ім жа ўвесь час прысылаюць плаціць „амартызацыю" за карыстанне машынамі.

Яшчэ горшая справа дзеецца ў вёсцы Белкі гміны Нараў. Тут у мінулым годзе члены сельгасгуртка перадалі свой фонд развіцця сельскаму кааператыву ВПГР у Нарве, які павінен быў служыць іх вёсцы. Фонд забралі, а як прыйшлося давезці гаручае для малацільнага агрэгата, дык сказалі, што трэба заплаціць ім больш 1000 зл. Машына для апрацоўкі ільну была перададзена сельгасгуртку ў Іванках, але дзесьці прапала, цяпер і знайсці яе цяжка, а Белкі за яе плоцяць.

Конта сельгасгуртка ў вёсцы Белкі няма, перададзеныя малацільныя агрэгаты стаяць пад голым небам сапсаваныя, іншыя машыны таксама стаяць пад голым небам і няма каму іх даглядаць і ладзіць, бо забралі грошы. Але падумаць ніхто не падумае, чым людзі будуць малаціць у гэтым годзе. Ці можа прыдзецца ехаць у Белавежскую або Лядскую пушчу і там вырубаць грабчака і шыкаваць сабе яшчэ цяпер зімою цапы? А можа біць будзем тымі цапамі адказных за беспарадак?

Я думаю, што гэтай справай займуцца ваяводскія ўлады і знойдуць вінаватага, бо — напомнім толькі — адзін малацільны агрэгат каштуе каля 50.000 зл.

**М. Лук'янюк**

(Працяг са стар. 1)




Таварыства звяртае вялікую ўвагу на збіранне беларускай народнай творчасці на Беласточчыне: песень, казак, абрадаў, экспанатаў матэрыяльнай культуры.

Развіваць сваю дзейнасць у такім шырокім маштабе БГКТ магло толькі ва ўмовах народнай улады. Гэтыя дасягненні з'яўляюцца вынікам шырокага супрацоўніцтва і дзейснай дапамогі палітычна-грамадскіх, прафсаюзных, кааператыўных, гаспадарчых арганізацый і дзяржаўных устаноў. За супрацоўніцтва і дапамогу выказваю ім сардэчную ўдзячнасць. Таксама дзякую членам і актывістам БГКТ за Ваш удзел і ўклад ва ўсё тое, што сёння мы называем дасягненнямі БГКТ.

Адпаведнай нагодай да рознабаковага роздуму і глыбокай ацэнкі дзейнасці нашай арганізацыі і з'яўляецца бягучы год, юбілейны. Гэта тым больш важна, што адзначэнне 20-годдзя БГКТ спалучаецца з VIII з'ездам таварыства, які прадбачваецца ў месяцы маі. Таму 1976 год з'яўляецца для нашай арганізацыі не толькі юбілейным годам, але адначасова годам актыўнай працы. Цяпер у нас адбываюцца справаздачна-выбарныя сходы ў гуртках, выбіраем дэлегатаў на VIII з'езд БГКТ і рыхтуемся да яго належнага правядзення.

Урачыстаму святкаванню 20-годдзя нашай арганізацыі ГП БГКТ прысвеціць народныя фэстыны, канцэрты і сустрэчы, а таксама шэраг іншых мерапрыемстваў.

Звяртаюся з просьбай да ўсіх членаў і актывістаў яшчэ болей актывізаваць і ўзмоцніць працу гурткоў і ўсёй арганізацыі.

Заклікаю ўсіх да актыўнага ўдзелу ў выкананні рашэнняў VII з'езду ПАРП, пастаноў II пленума ЦК ПАРП і ўсіх ініцыятыў нашай партыі і народнай улады, накіраваных на далейшае развіццё нашай краіны і штораз лепшае жыццё народу.

**Мікалай Самоцік**
**старшыня ГП БГКТ**

# Піліп Кізевіч

Пачатак на стар. 1

кія гады туляння ў бежанстве і вучобы. П. П. Кізевіч едзе на Паўночны Каўказ, працуе там у школе і адначасова ўдзельнічае ў нарыхтоўцы збожжа. Гэта былі цяжкія 1920-21 гады, у гарадскіх цэнтрах маладой Савецкай Рэспублікі не хапала хлеба. І П. П. Кізевіч разам з іншымі савецкімі работнікамі рабілі ўсе намаганні, каб штодня адпраўляць у Маскву найменш па вагону збожжа.

Пасля шматгадовых пошукаў урэшце ўдаецца яму знайсці бацькоў і сястру. Сям'я тужыла па родных мясцінах, і маліла яго, каб вярнуцца ў родную вёску. П. П. Кізевіч ведаў, што там, за кардонам, яго чакае беспрацоўе ды праследаванні, але ўсё ж паддаўся намовам. І спадзяванні спраўдзіліся: родныя аселіцы сустрэлі іх холадам ды голадам. Буржуазныя ўлады аніяк не хацелі падпусціць і блізка да школы настаўніка з „бальшавіцкім" дыпломам. Пасля доўгага бадзяння без працы нейкім цудам удалося яму ўладкавацца сторажам у інтэрнаце для медыцынскіх работнікаў у Баранавічах. Але не на доўга, бо і там ён быў нямілы ўладам. І ён пайшоў працаваць грузчыкам на тытунёвую фабрыку Шарашэўскага ў Гродне.

І іменна тады, у Гродне, П. П. Кізевіч актыўна ўключаецца ў дзейнасць беларускага рэвалюцыйнага руху, спачатку працуе ў гродзенскіх арганізацыях БСР Грамады, а ў 1927 годзе ўступае ў рады Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Партыя даручае яму дзейнасць у Таварыстве беларускай школы.

— Увесь свой вольны ад працы час даводзілася мне аддаваць дзейнасці ў КПЗБ і ТБШ, — прыгадвае ён. — І гэта была мая стыхія. Засноўваў я гурткі ТБШ на Гродзеншчыне, праводзіў у іх даклады, заняткі па навучанню грамаце з непісьменнымі, арганізаваў мастацкую самадзейнасць на беларускай мове. А калі мы з жонкай пераехалі ў Беласток, і доўгі час не мог знайсці тут работы, я цалкам акунуўся ў тэбэшоўскую дзейнасць. Мяне выбралі ў Галоўнае праўленне ТБШ, членам яе Беластоцкай акругі і скарбнікам Гродзенскай акругі. Бо побач з асветна-культурнай дзейнасцю я збіраў ад бацькоў заявы да тагачасных уладаў з патрабаваннем навучання дзяцей роднай мове, збіраў складчыны і ахвяраванні на патрэбы арганізацыі, выданне нашых органаў „Беларускі летапіс" і „Наш палетак", на выпуск падручнікаў па роднай беларускай мове і літаратуры і іншых выдавецтваў. Па даручэнню Беластоцкай акругі ТБШ апекаваўся гурткамі ў Залуках, Дзернякове, Навасёлках і Пясчаніках, што каля Гарадка. Надта ж актыўныя і баявыя былі гэтыя гурткі і кіравалі імі ахвярныя людзі, як напрыклад, Майсак у Пясчаніках ці Лукошык у Дзернякове. Пясчанікі нават ставілі беларускія п'есы, між іншым, „Мікітаў лапаць" М. Чарота. Працаваць было цяжка, за кожным маім крокам сачыла паліцыя, разганяла сходы, перашкаджала ў занятках. Натхненнем і маральнай падтрымкай мне заўсёды служыў Рыгор Шырма, сакратар ГП ТБШ, з якім я супрацоўнічаў.

Трэба было ўтрымаць сям'ю і самому неяк пракарміцца. І ён паступіў чорнарабочым у беластоцкі водаправод, капаў каналы, пракладваў водаправодную сетку ды сцёкавыя трубы.

Да настаўніцкай дзейнасці змог вярнуцца толькі пры Савецкай уладзе.




*Выдавецкая дзейнасць — найбольшае дасягненне.*

# Весткі з Супраслі

## БУДЗЕ ЗРУЧНЕЙ РАБІЦЬ ПАКУПКІ

З кожным годам жыхарам Супраслі прыбывае новых крамаў.

У лютым гэтага года будзе адкрыта крама пад зялёнай шыльдай з рознымі прыладамі для сельскагаспадарчай прадукцыі. Пабудаваў яе за паўмільёна злотых ГС у Васількове.

Таксама ў першым квартале гэтага года будзе аддадзена ў карыстанне крама з прадуктовымі таварамі. Знаходзіцца яна па вуліцы Жвіркі і Вігуры. Краму пабудаваў за 500 тысяч злотых аддзел ваяводскага спажывецкага кааператыва „Сполэм" у Супраслі.

## 1000 ЧЫТАЧОЎ

Гмінная бібліятэка ў Супраслі мае каля 16 500 кніжак, якімі пастаянна карыстаецца звыш тысячы жыхароў гэтага мястэчка. У мінулым годзе яна пабагацела яшчэ на 3 260 новых кніжак.

У летнім сезоне ў супрасльскай бібліятэцы пазычаюць кнігі таксама адпачываючыя. (ця)

# Беларуская літаратура

АЛЯКСАНАР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА 9

**Сялянская лірыка.** Як рамесніцка-пралетарскія вершы былі выразна раздзелены на песімістычныя і аптымістычныя, так і сялянскія творы ўтрыманы ў двух супрацьстаўных настроях. У разгледжаных ужо вершах сялянскага цыкла Гартны плакаў над нядоляй селяніна. У тых вершах, якія будзем аналізаваць цяпер, дамінуючым настроем з'яўляецца аптымізм, радасць, бадзёрасць. Усе гэтыя элементы выступаюць у прыгожым вершы „Красуй, збожжа".

*Красуй, збожжа майго краю,*
*Каласісь багата!*
*Жджэ за працу ураджаю*
*Ад цябе араты.*
*Хлебароб, аддаўшы сілы*
*Свайму полю-ніве,*
*Усміхнецца табе міла,*
*Што ты урадзіла.*

Прыгожая гармонія паміж чалавекам, працай, зямлёй і надзеяй характарызуе ўвесь гэты верш. Цікавай з'яўляецца канструкцыя твора. Складаецца ён з шасці рэгулярных строф. Аднак кожныя дзве страфы аб'яднаны ў адну цэласць. Цэласці гэтыя пачынаюцца адным і тым самым радком „Красуй, збожжа майго краю". Верш па сутнасці належыць да песеннай лірыкі і аж просіцца, каб пераладжыць яго на музыку.

У падобным, радасным настроі ўтрыманы таксама верш „Сявец". З'яўляецца ён зваротам да селяніна. Паэт аж чатыры разы паўтарае заклік „Уставай, сявец". Заахвочвае ён селяніна выйсці ў поле і пачаць сяўбу. Аўтар перакананы, што дагледжаная глеба не ашукае селяніна і аддзякуе яму багатым ураджаем.

*Уставай, сявец! І тое знай,*
*Што думак глеба не абмане,*
*А дасць багаты ураджай*
*За пот праліты, за старанне.*

У вершы выступае тыповы для народнікаў і польскіх пазітывістаў культ селяніна, культ яднання з зямлёй, культ працы.

Верш „Песня жняі" — гэта ілюстрацыя жаночай працы на полі ў часе жніва. Твор напісаны ад імя сялянкі. Верш „Сявец" быў формай заахвочвання селяніна да дзейнасці, верш „Песня жняі" — гэта фатаграфія сялянскай дзейнасці. Трэба сказаць — фатаграфія эмацыянальная, сардэчная. У сваёй пахвале і захапленні працай жняі паэт ідзе так далёка, што пачынае ідэалізаваць яе. Гэтая ідэалізацыя даводзіць да пэўнай спрошчанасці ў інтэрпрэтацыі сялянскай працы. Прыкладам могуць быць наступныя строфы:

*Не баюся спёкі я*
*Сонца агнявога*
*І не чую, што баляць*
*Рукі, крыж і ногі.*
*Пот ліецца ручайком,*
*Смага забірае;*
*Я ж вясёлая ўсё жну,*
*Жну ды падпяваю.*

Можам гаварыць нават аб супярэчнасцях у прыведзеным фрагменце верша. Калі хто ведае глыбока цяжкую працу жняі, не згодзіцца з тым, што жанчына, залітая потам, змучаная прагай, жанчына з болем у руках, нагах і плячах можа, як гэта гаворыць паэт, падпяваць. Гэта, аднак, мастацкі прыём. Усхваляваны і захоплены прыгажосцю жняі, паэт можа дазволіць сабе на гіпербаліку.

Верш „Касьба" ў многім падобны на „Песню жняі". Тут таксама выступае захапленне прыгажосцю і сэнсам сялянскай працы. Верш канчаецца дзвюма страфамі, якія могуць быць напісаны на праграмным сцягу Гартнага.

*Толькі не дарма усе сілы*
*Людзі сціраюць свае,*
*Праца ўвесь свет ускарміла,*
*Праца нам шчасце дае.*
*Працаю сілы прыроды*
*К людзям у слугі ідуць,*
*З ёю у свеце народы*
*Лепшае долі прыждуць.*

Верш гэты быў напісаны ў 1912 годзе. Можна зрабіць вывад, што Гартны, хістаючыся ў ацэнках працы ў ранні перыяд сваёй дзейнасці, урэшце прыйшоў да вываду, што праца — найпрыгажэйшы атрыбут жыцця чалавека — з'яўляецца сродкам паляпшэння чалавечага быту, сродкам узбагачэння чалавечай душы. Такім чынам, ператвараецца яна з катэгорыі фізічнай у катэгорыю маральную.

Спачатку вёў курсы рускай мовы для настаўнікаў Беластоцкай вобласці, потым настаўнічаў у сярэдняй школе. Пачалася гітлераўская акупацыя, і П. П. Кізевіч зноў вярнуўся да лапаты ў водаправодзе. Самотны — дачку гітлераўцы забралі на прымусовую працу ў Германіі, а жонку з другою дачкою захапіла вайна ў часе іх пабыўкі на адпачынку ў Крыме — ён прысвяціў сябе падпольнай дзейнасці, увайшоў у Беластоцкі падпольны антыфашысцкі камітэт, даставуляў зброю, харчы і інфармацыю савецкім партызанам, што дзейнічалі паблізу Беластока, пераховуваў яўрэйскіх дзяцей-сірат, дапамагаў яўрэям, якіх фашысты замкнулі ў гета. І ўсё гэта, нягледзячы на пагражаючы кожную хвіліну арышт і расстрэл.

Калі 27 ліпеня 1944 г. Беласток вызваліла Савецкая Армія, П. П. Кізевіч адразу ўключыўся ў палітычную дзейнасць: увайшоў у склад першага Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку, уступіў у рады Польскай рабочай партыі. Неўзабаве яму даручаецца надта адказная праца ў Ваяводскай камісіі партыйнага кантролю. На яго, як віднага партыйнага і грамадскага дзеяча, безупынна палявала рэакцыйнае падполле. Але яму пашчасцівілася пазбегнуць іх смяротных куляў.

— Калі ў 1949 г. пачалі па ўсёй усходняй Беласточчыне паўставаць школы з беларускай мовай навучання, а таксама навучанне беларускай мовы ў польскіх школах, мяне накіравалі з ВК ПАРП у Кураторыю, на загадчыка аддзела меншаснага школьніцтва, — расказвае П. П. Кізевіч. — Працы было мноства, дзяцей неабходна было забяспечыць падручнікамі, а школы — настаўнікамі. І ўсё ж, калі, бывала, пяшком, за пятнаццаць-дваццаць кіламетраў ад чыгуначнай ці аўтобуснай станцыі зайду ў якую-небудзь вясковую школку, пагляджу, як дзеткі вучацца роднай мове, ад радасці і мая стома, і ўсе цяжкасці і турботы забываліся, заставалася адно пачуццё вялікага шчасця...

Аднак здароўе не дазволіла П. П. Кізевічу працаваць у школьніцтве. Яго накіравалі на пасаду дырэктара Беластоцкага водаправода. Але і тады ён не парываў сувязі з беларускім школьніцтвам, бачыў патрэбы шырэйшага разгортвання культурна-асветнай дзейнасці ў беларускім асяроддзі. І тады стаў адным з першых ініцыятараў па стварэнню Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

— 26 лютага 1956 года быў скліканы першы арганізацыйны з'езд БГКТ, мне выпаў гонар адкрываць яго, — успамінае П. П. Кізевіч. — Устаў я з-за стала прэзідыума, глянуў на запоўненую дэлегатамі залу і сэрца маё затрапятала ад шчасця: „Ёсць патрэбы развіваць культурна-асветную дзейнасць на роднай мове сярод беларусаў Беласточчыны, ёсць для гэтага створаныя народнай уладай прыхільныя ўмовы і ёсць ахвотныя і ахвярныя людзі!"

І П. П. Кізевіч актыўна ўключыўся ў дзейнасць БГКТ, быў членам Прэзідыума, доўгія гады дзейнічаў у складзе Галоўнага праўлення, Галоўнай рэвізійнай камісіі. І сёння, хоць ён ужо на пенсіі і хвароба не дазваляе яму актыўна ўдзельнічаць у працах нашай арганізацыі, аднак П. П. Кізевіч жыва цікавіцца ўсім тым, чым жыве БГКТ.

Дзяржава высока ацаніла самаахвярную працу П. П. Кізевіча. Ён узнагароджан ордэнам Сцяга Працы II класа, Афіцэрскім Крыжам Адраджэння Польшчы, Сярэбраным Крыжам Заслугі, залатым і сярэбраным знакамі „Заслужаны для Беласточчыны" і іншымі ўзнагародамі.

**Мікалай Гайдук**

# Падляшскія будаўнікі

**(Працяг са стар. 2)**

Найбольш удзячны Падляшскаму будаўнічаму прадпрыемству Лапы. Усё, што там пабудавана пасля вайны, зроблена рукамі падляшскіх будаўнікоў. Лапская бальніца была залічана ў 1974 годзе да найлепш выкананага аб'екту на Беласточчыне.

Але ўсё ж найбольш імі зроблена ў Беластоку. Тут пабудавалі яны два жыллёвыя раёны — Прывакзальны і Пасёлак маладых, які знаходзіцца пры ўездзе з Варшавы ў Беласток, частка жыллёвага раёна па вуліцы Міцкевіча, першы этап раёна Антанюкоўскія сады. З аб'ектаў грамадскага карыстання неабходна сказаць аб дзвюх вялікіх паліклініках — чыгуначнікаў і па вуліцы Бэма, аб доме студэнта на 600 месц, аб сучасным стадыёне, пабудаваным на дажынкі, аб будынку радыё і тэлебачання, аб помніку героям Беласточчыны, які пабудаваны быў па-за планам, аб нядаўна аддадзеным у карыстанне гандлёвым доме „Цэнтраль", аб разбудове Беластоцкага палітэхнічнага інстытута, аб будове анкалагічнай бальніцы і г.д. Што датычыцца прамысловага будаўніцтва, неабходна падкрэсліць разбудову чыгуначнага прадпрыемства стальных канструкцый у Старасельцах, будову фабрыкі „Спомаш" і іншыя.

Падляшскае будаўнічае прадпрыемства ў апошнія гады найбольш займаецца прамысловым будаўніцтвам. У яго дзейнасці складае яно 60 працэнтаў, 30 працэнтаў — гэта будаўніцтва аб'ектаў грамадскага карыстання і 10 працэнтаў — жыллёвае будаўніцтва.

Вялікіх дасягненняў падляшскія будаўнікі дабіліся ў мінулым годзе. У гонар VII з'езду ПАРП абавязаліся яны перавыканаць план на 3 млн. зл. Перавыканалі на 9 млн. зл. Дынаміка развіцця прадукцыйнасці ў мінулым годзе дасягнула 27 прац., што дало 17 млн. зл. чыстага даходу.

Восенню мінулага года прадпрыемства святкавала свой сярэбраны юбілей. Было падлічана, што за 25 мінулых год прадпрыемства пабудавала: 220 жылых блокаў, 165 фабрык і прамысловых аб'ектаў, 175 школ (найбольш у Беластоцкім павеце), 217 аб'ектаў для сельскай гаспадаркі, 101 аб'ект публічнага карыстання, у тым ліку 31 аб'ект аховы здароўя.

Цяпер прадпрыемства вядзе работы на 47 будоўлях. Працуе на прадпрыемстве 1200 чалавек. Дырэктарам прадпрыемства з'яўляецца Рамуальд Касінскі — таленавіты арганізатар, які, як там кажуць, „паставіў на моладзь".

Бягучы год напэўна прынясе прадпрыемству новыя вялікія дасягненні, таму што падляшскія будаўнікі не змяншаюць, а нарашчваюць тэмпы сваёй нялёгкай і адказнай дзейнасці.

**Міхась Хмялеўскі**



*Новае жыллёвае будаўніцтва ў Саколцы.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




**ВОСЬМЫ КЛАС... І ШТО ДАЛЕЙ?**

Я прачытала артыкул у „Ніве" аб нашай школе. І асабліва зацікавілі мяне словы, накіраваныя да васьмікласнікаў. Кожны з нас, вучняў сярэдняй школы, стаяў перад праблемай выбару школы. Ці правільны быў выбар, вучань мог пераканацца толькі ў школьным годзе. Некаторыя разачароўваліся, але было ўжо позна.

Каб пазбегчы такіх выпадкаў, дырэкцыя Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім ужо два гады арганізуе сустрэчы кандыдатаў з дырэктарам, настаўнікамі і класнымі кіраўнікамі. Розным вучням сустрэчы гэтыя далі многа карысці.

Я была вучаніцай пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім, якая змяшчаецца ў гэтым самым будынку, што і ліцэй. І ў мяне не было клопатаў у новай школе. Знаёмыя твары прафесараў, больш паловы вучняў „тройкі", якія прадаўжаюць вучобу ў ліцэі, — я без хвалявання прыйшла на першую сустрэчу. Але былі таксама няяснасці, невядомыя справы, аб якіх мне хацелася даведацца. Нават для нас — вучняў „тройкі" — ліцэй быў недаступнай таямніцай. Мы з пашанай глядзелі на старэйшых сяброўак і хацелі як мага хутчэй пазнаць таямніцу другога паверха, які нас вельмі цікавіў.

Ужо першыя сустрэчы паказалі, што нічога не ведаю я аб багатай гісторыі сваёй будучай школы. Урокі на сустрэчах выяснілі ўсе мае пытанні. Настаўнікі аказаліся вельмі ветлівымі, прыязнымі і адносяцца да вучня, як да сябра. Патрабаванні аказаліся сапраўды вялікія, але гэта толькі на карысць нам.

Сярод нас ёсць вучні, якія ў пачатковай школе не вучыліся беларускай мове. Гэтым вучням асабліва памаглі сустрэчы. Яны пазналі беларускую мову, і аказалася, што яна не такая і цяжкая. Недахопы з пачатковай школы гэтыя вучні папоўнілі на занятках гуртка беларускай мовы.

У нашым ліцэі ёсць вучні, якія апынуліся тут толькі таму, што былі ўпэўнены ў высокім узроўні навучання па асобных прадметаў. Яны не памыліліся. Сустрэчы спрыяюць наладжванню першых сувязей, дапамагаюць выбраць профіль класа, пазнаць свайго настаўніка. Усё гэта прычыняецца да таго, што 1 верасня першакласнікі не адчуваюць сябе адзінокімі, загубленымі, а гэта ж вучні часам з найдалейшых мясцовасцей нашага ваяводства.

Шырэй аб нашай школе, аб яе дасягненнях, аб лёсе нашых выпускнікоў у вышэйшых навучальных установах краіны напісала „Ніва" ў № 6 ад 8.II. Я, як удзельнік першакласніцкіх сустрэч у ліцэі, заахвочваю ўсіх васьмікласнікаў прыехаць да нас на сустрэчы, якія адбудуцца 29. II., 7.III., 21.III., 28.III. і 4.IV.1976 г. у 9 гадзін раніцы — заўсёды ў нядзелю.

**Галіна Ляшчынская,**
ліцэй у Бельску.

Народная Рэспубліка, пераўтвараючы ў жыццё ленінскую нацыянальную




палітыку, — гаворыцца ва ўступе да артыкула, — запэўнівае нацыянальным меншасцям, у тым ліку і беларусам, пражываючым у Польшчы, раўнапраўнасць і магчымасць тварыць і развіваць сваю нацыянальную культуру". І далей: „Сёння беларусы, нароўні з польскімі братамі, будуюць народную Польшчу, рэалізуючы праграму VII з'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі".

Аўтар артыкула Герат Лібш (дарэчы, ён быў госцем нашай рэдакцыі ў 1971 годзе) падкрэслівае галоўныя заданні ў працы нашага таварыства: шырокая актывізацыя беларускага насельніцтва ў будаўніцтве сацыялізму ў Народнай Польшчы, удзел беларускага насельніцтва ў гаспадарча-эканамічным і культурным жыцці краіны, развіццё беларускага школьніцтва і арганізаванне курсаў беларускай мовы, падтрымка і аказванне дапамогі народным мастакам і калектывам у развіцці народнай творчасці, збіранне і запісванне фальклору.

У артыкуле дакладна пералічваецца асабовы склад членаў таварыства, колькасць гурткоў, самадзейных мастацкіх калектываў, нават цікавейшыя мерапрыемствы, якія арганізуе таварыства.

Значнае месца ў артыкуле адведзена тыднёвіку „Ніва".

Гаворыцца ў артыкуле і аб аб'яднанні „Белавежа", якое выгадавалася пры „Ніве", і аб выдавецкай дзейнасці таварыства, асабліва падкрэсліваецца 18 выданняў „Беларускага календара".

Заканчваецца артыкул прыгаданнем аб юбілеі таварыства і „Нівы" і аб падрыхтоўцы да VIII з'езду БГКТ, які адбудзецца ў маі.

**Яніна Чэрнякевіч**

# БАГАТЫЯ МІКАЛАІ

У групе сельскагаспадарчых школ у Бельску Падляшскім у гэтым школьным годзе працуе настаўнікамі аж тры Мікалаі. Адным з іх з'яўляецца Мікалай Турковіч. Ён кожны дзень даязджае ў школу з дома каля Боцек сваёй уласнай машынай. У школе ён выкладае механізацыю сельскай гаспадаркі, а таксама вядзе практычныя заняткі па механізацыі сельскай гаспадаркі і правілах кіравання машынамі. Пасля школьных заняткаў праводзіць рэпетыцыі са школьнай моладдзю ў вакальна-музычна-танцавальным калектыве „Падляшскія зязюлі". Дзейнічае таксама ў ГСПС. За яго дзейнасць школа атрымала шмат дыпломаў і ўзнагарод.

Другім Мікалаем з'яўляецца Мікалай Ялінік. Пачаў ён працаваць у школе 1 верасня 1975 года пасля заканчэння вучобы ў Сельскагаспадарчай акадэміі ў Кракаве. Гэты малады чалавек навучае сельскагаспадарчай механізацыі і правілам руху машын па дарогах. Пасля заняткаў актыўна займаецца спортам і апякуецца СКС-ам. Са спартыўнай часткай школьнай моладзі часта наведвае розныя сярэднія школы (у Гайнаўцы, Граеве, Дуброве, Беластоку) і так наша моладзь змагаецца ў спартыўных спаборніцтвах. У апошні час яго падапечныя ўсё часцей і часцей пачынаюць перамагаць.

Апошнім Мікалаем з'яўляецца ваш карэспандэнт. У школе ён працуе звыш 13 год (шчаслівы юбілей!). Выкладае ў апошніх класах сельскагаспадарчае рахункаводства і аснову права. Пасля школьных заняткаў працуе з моладдзю ў школьнай арцелі, ужо звыш 7 год. Паказчыкі гэтай арцелі ўсё растуць. Балансавая прыбаўка дасягнула ў 1975 годзе суму 42.000 злотых, а актыўнасць моладзі ў арцелі ўзрасла на 70%.

**Мікалай Няплоха**




***У гэтым годзе бэзкатоўскі аўтобус замест абслугоўваць розныя беластоцкія ўстановы будзе нарэшце даступны школам з беларускай мовай, гурткам нашай арганізацыі з аддалёных мясцін, актыву БГКТ для наладжвання экскурсій у Варшаву, Кракаў, Гданьск і іншыя прываблівыя мясцовасці нашай краіны.*** ***(іс)***

# Зайчык

На трыбуну выскачыла маленькае касматае стварэнне з доўгімі вушамі.

— Як вас аб'явіць? — спытаў старшыня.

— З-з-з-з-з...

— З-з-з-з-з? Гэта ваша прозвішча?

— ...а-а-а-айчык!

— Айчык? Незразумела. Дык як жа ўсё ж? З-з-з ці Айчык?

— З-з-з-з-з-айчык!

— Значыць, Зайчык?

— Т-т-т-т-так.

— Вам холадна?

— Н-н-н-н-не.

— Чаму ж вы дрыжыце?

— Я н-н-н-н-не д-д-д-дрыжу.

— Вы ўвесь трасецеся.

— Я н-н-н-н-н-не т-т-т-трасуся.

— Відаць, гэта нервы. Вы маеце слова.

— Н-н-н-н-не...

— Што н-н-н-н-н-не? Навошта ж вы выскачылі на трыбуну?

— Ці ж я выскачыў?

— Ну добра, не выскачылі, а выйшлі. Калі выйшлі, дык гаварыце.

— А я не дзеля гэтага выйшаў.

— А дзеля чаго?

— Н-н-н-не ведаю. Я лепш сыду.

— Ну хоць што-небудзь скажыце!

— А што?

— Вам відней.

— Відней... Вось так выскачыш, скажаш... А потым цябе спытаюць: „Гэта вы гаварылі? Так, так, значыць вы?“

— Я не разумею.

— То-та ж, што не разумееце. Спачатку нічога, а потым і хоп!

— Што значыць „хоп“?

— У тым вось і справа, што невядома. Наогул ні ў чым нельга быць упэўненым...

— Што вы там мармычаце? Гаварыце ўрэшце проста: вы будзеце выступаць ці не?

— Між намі гаворачы, я яшчэ сам не ведаю. Спачатку я меркаваў, а калі добра падумаў, сказаў сабе: „Гэта добра, калі... А раптам... ці мала што бывае... не напэўна, а ўсё ж...?

— Што ўсё ж?

— А тое... сыду я лепш уніз... у публіку. Сярод публікі заўсёды лепш. Усе апладзіруюць — і ты апладзіруеш. Усе крычаць — і ты крычыш. А калі спытаюць: „Хто крычаў „ура“, а хто крычаў „прэч“? — ты прамаўчыш. А на сцэну выйшаў — і ўсе бачаць. „Ах, гэта, значыць, вы сказалі... Вы супраць?“ „Н-н-н-не...“ „Значыць, вы за?“ „Н-н-н-не... Я з-з-з-з-зайчык“. Лепш я пайду. Д-д-д-да пабачэння!

**В. Цонеў**

— Вы зноў зрабілі моцную каву. Я цэлы дзень не магу заснуць.

# НІЎКА

*БРАКАРОБ У ПЕКЛЕ*

— *Маімі запалкамі дзе там распаліце!*

## ДЫЯГНАЗ

Лекар-ардынатар пытае ў загадчыка аддзялення:

— Анатоль Іванавіч, майго хворага аглядаў старшы лекар і паставіў дыягназ: „Зменшаная глухата“. Як гэта зразумець?

— Гэта значыць, — адказаў той, — што трохі хворы недачувае, а трохі і лекар.

## СЛУШНАЯ ПАРАДА

— Падумай толькі: ён яшчэ не ведае мяне, а ўжо хоча са мной ажаніцца.

— Згаджайся, пакуль ён і сапраўды цябе не распазнаў як след.

## З ЖЫЦЦЯ ХАРЫТОНШЫНАГА АЛЁШКІ

У абедзенны перапынак Алёшка зайшоў у кафэ і сеў за столік. Ён папрасіў меню і сказаў афіцыянту:

— Тут трыццаць грошай вам на чай: скажыце, што вы можаце прапанаваць мне?

— Я прапаную вам пайсці ў іншае кафэ...

## КЕМЛІВАСЦЬ

Два сябры прыехалі ў Габрава ў госці. Калі падышлі да дома, куды яны былі запрошаны, адзін з іх пастукаў нагой у дзверы.

— Чаму стукаеш нагой? — спытаў другі.

— Каб гаспадары падумалі, што нашы рукі заняты падарункамі. Інакш не адчыняць.

## МІНІВЕРШЫ

### УСПОМНІЎ

*За пяць год матулі роднай*
*Весткі сын не даў ніводнай.*
*Ну, а сёння — тэлеграма:*
*„Прыязджай да мяне, мама!“*
*— Што ў цябе страслося, Янка?*
*— Мне спатрэбілася нянька!*

**Аляксандр Ліхач**

**...Ён гатовы быў зрабіць усё, каб нічога не рабіць.**

**...Гэты за словам у кішэню не палезе: палянуецца.**

## ДАЙШЛО, НАРЭШЦЕ

Кастусь падаў у суд на суседа за абразу. Той назваў яго бегемотам.

— Аднак, — заўважыў суддзя, прачытаўшы заяву, — гэта было тры гады назад.

— Так, пане суддзя, — адказаў Кастусь, — але я ўпершыню ўбачыў бегемота на гэтым тыдні, калі наведаў заапарк.

## МІКОЛКА

— Сынок, ці ж так чытаюць кніжкі? — ушчувае бацька Міколку. — Ты ж не чытаючы перагортваеш па дзве-тры старонкі.

— А гэта кніжка, тата, пра шпіёнаў, дык вось я і хачу іх хутчэй злавіць.

## ГУМАР З...

### ХАЙ НЕ МУЧАЕ

У куточку забягалаўкі п'янаваты чалавек намагаецца заспяваць: „Распрагайце, хлопцы коні...“ Яго ніхто не падтрымаў. Ён трохі памаўчаў, а тады завыў зноў: „Запрагайце, хлопцы коні...“

Вось так „распрагаў“ і „запрагаў“ разоў дзесяць. Слухалі яго, слухалі, ажно падыходзіць адзін да спевака — хрась у вуха.

Сусед кінуўся яго супакойваць. А той:

— Няхай жывёлы не мучае!

— У мяне ўкралі кошык!

— Колькі можна апладзіраваць?
— Я моль лаўлю.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Сеўка з Рудут, Галіны Юзвюк з Барысаўкі і дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

## Wio, koniku

słowa: Imre Garai
słowa polskie:
Juliusz Sztatter
muzyka: Imre Garai

Powoli człapał konik skrajem szosy,
starego Galambosza ciągnąc wóz,
Wtem piękne auto, trąbiąc wniebogłosy,
przemknęło obok nich, wzbijając kurz.
— Hej, ojcze — krzyknął szofer — widzi mi się,
że piechotą jednak prędzej by się szło!
A stary mruknął: — Ej, ty tam, urwisie,
patrz swego nosa, bo ci utrze kto...

Wio, koniku, a jak się postarasz,
na kolację zajedziemy akurat,
tobie owsa nasypiemy zaraz,
a ja z miski smaczną zupę będę jadł.
A dla nich, choć w godzinę kilometrów robią sto,
ni zupy nie ma, ani owsa...
Wio, koniku, wio!
Wio, koniku, dla nich — zimny garaż,
nam się lepiej żyje, mimo starych lat.

Spotkali znów samochód na zakręcie,
stał w miejscu wypluwając z rury dym,
a ów dowcipny szofer, klnąc zawzięcie,
schylony nad motorem dłubał w nim...
Galambosz dumnie spojrzał na nich z kozła:
— Hej, chłopcze — krzyknął przez zwiniętą dłoń —
patrz, żeby ta landara cię dowiozła,
bo zawsze jednak to nie to, co koń.

Wio, koniku, a jak się postarasz,
my zdążymy na kolację akurat,
tobie owsa nasypiemy zaraz,
a ja z miski smaczną zupę będę jadł.
Niech oni na godzinę kilometrów robią sto,
lecz my się za to nie psujemy...
Wio, koniku, wio!

Wio, koniku, dla nich — zimny garaż,
nam jest lepiej, choć ty stary i ja dziad.
Lecz kiedy wymęczony drogą konik
dobijał już do pierwszych wioski chat,
znienacka ryk klaksonu ich dogonił,
samochód śmignął obok nich jak wiatr.
I nagle, tuż przed furtką z Galamboszem,
zatrzymał się, jak gdyby w ziemię wrósł,
i szofer wysiadł, i dopiero — proszę! —
zobaczył stary, kto prowadzi wóz...

Wio koniku, blisko już przystanek,
już za chwilę smaczne sianko będziesz jeść.
Ten łobuziak to jest wnuk mój, Janek,
a z nas jutro śmiać się będzie cała wieś...
Bo widzisz, stary, my możemy gadać to czy sio,
lecz motor zawsze nas wyprzedzi...
Wio, koniku, wio!
Wio, koniku, cieszmy się z przegranej,
pięknie jest, gdy młodość śpiewa nową pieśń.

# Курёзы

## ЛЕПШ ПОЗНА...

**Нью-Йорк.** Жыхарка горада Уінана (штат Мінесота) Роуз Цім (да замужжа Роуз Мілер) атрымала напярэдадні каляд віншаванне, адпраўленае... паўстагоддзя назад. Віншавальная паштоўка, на паштовым штэмпелі якой стаіць дата 11 снежня 1925 года, была апушчана сяброўкай яе дзяцінства Полін Хізер у суседнім гарадку Мінейска, які знаходзіцца на адлегласці ўсяго 30 кіламетраў ад Уінана. Паштоўка была адрасавана Роуз Мілер, аднак паштальён, выпадкова ўспомніўшы дзявочае прозвішча Р. Цім, правільна даставіў карэспандэнцыю адрасату. Адпраўшчыцы паштоўкі ўжо даўно няма ў жывых.

## НЕБЯСПЕЧНАЕ ПАДАБЕНСТВА

З мюнхенскага заапарка ўцёк паўтарагадовы воўк. У пошуках прынялі ўдзел трыццаць шэсць паліцэйскіх. Якое было іх здзіўленне, калі на адной з вуліц горада яны ўбачылі ўцекача побач з жанчынай, якая гладзіла ваўка па галаве. „У мяне дома такі ж сабачка“, — прастадушна паведаміла яна паліцэйскім.

Выстралам са спецыяльнай вінтоўкі парушальнік спакою быў усыплены і змешчаны ў заапарк. „Жанчыне вельмі пашанцавала, — сказаў журналістам дырэктар заапарка. — Адзіным тлумачэннем дабрадушных паводзін ваўка можа служыць тое, што ён паспеў недзе добра паснедаць“.

*Некаторыя лічаць, што лепш пасадзіць праўду ў прэзідыум, чым выпусціць яе на трыбуну.*